# ВЫСТАЎКА АБ ЛЕНІНЕ

У Музеі рэвалюцыйнага руху ў Беластоку адкрыта выстаўка аб Леніне. Фатаграфіі, копіі дакументаў прадстаўляюць нам Леніна — праварыра міжнароднага пралетарыяту і творцу савецкай дзяржавы.

У цішы людзі глядзяць на фатаграфіі, чытаюць жывыя актуальныя ленінскія словы... «Надо работать сверх меры, а не языком вертеть» — подпіс пад мастацкай карыкатурай балбатуна з доўгім высунутым закручаным языком. Людзі перад экспанатам усміхаюцца.





Або ленінскі план пасяджэнняў і нарад, які прадбачваў для дакладчыка — 10 мінут, для дыскутантаў па — 5 мінут.

Выстаўку замыкае вялікі шчыт з копіямі сусветных газет, паведамляючых аб смерці Леніна. З чорных некралогаў б'е сум, вялікі сум людзей, якія тут жа прысягаюць, што ідэя Леніна будзе жыць. (вл)

На здымках фрагменты выстаўкі.

# СЕЛЬСКАЯ ГАСПАДАРКА БЕЗ ТАЯМНІЦ

## АСНОЎНЫ РЭЗЕРВ

Перадз'ездаўскія тэзісы — гэта збор цікавых параўнанняў, лікі аб дасягненнях і заданнях, аб мэтах і сродках, якія гарантуюць выкананне планаў. Шмат увагі прысвечана праблемам выкарыстання зялёных угоддзяў, галоўным чынам у такіх раёнах, як Беласточчына.

Дагэтуль у нас змеліяравана больш 113 тыс. га лугоў і паш, або ў 6 разоў больш, чым за міжваеннае дваццацігоддзе. У мінулай пяцігодцы ўклад грошай у меліярацыю склаў 414,8 млн. зл., а ў гэтым пяцігадовым плане амаль у тры разы большы, і расце з кожным годам. Вось прыклады: 1963 год — 185 млн. зл., 1964 год — 219 млн. зл., 1965 год — 274 млн. зл.

Грошы — гэта адзін бок медалі. Другі бок — эфекты, тыя цэнтнеры, літры і... залатоўкі даходу. Такі сэнс укладу грошай. На жаль, гаспадары зялёных угоддзяў не заўсёды гэта разумеюць. Ёсць некалькі асноўных спраў, якія акрэсліваюць размеры прадукцыі і даходы.

Першая — догляд аб'ектаў. Ужо некалькі гадоў падрад дрэнна былі дагледжаны нашы меліярацыйныя аб'екты, асабліва ў Беластоцкім, Бельскім, Гайнаўскім паветах. Цяпер ужо значна лепей. Справа аднак у тым, каб усе равы былі добра дагледжаны і ўтрымліваліся ў добрым стане. Вясною трэба ачысціць іх ад снегу і смецця, каб аблегчыць сплыў вады. Месцы, дзе збіраецца мул, трэба высыпаць жвірам, а нават забрукаваць або выкласці пліткамі. Мул з равоў можна раўнамерна раскінуць па лузе або скласці на кампост. Апрача гэтага, трэба скасіць трыснёг і іншую траву, якой парaслі равы.

Другая справа — наваднене. У гэтым сэнсе маем яшчэ малы вопыт. Напр., у мінулым годзе значна спазніліся з залівам у Бельскім павеце, што прывяло да значных страт. Трэба дапамагчы сялянам навучыцца правільна выкарыстоўваць шлюзавыя аб'екты.

Трэцяя справа — угнаенне. Усё яшчэ мала ўгнаенняў трапляе на лугі і пашы. Не выкарыстоўваюцца гнаёўкі, кампосты і торф на ўгнаенне. Вельмі добрыя вынікі дае ўгнойванне кампостам, але яго ў нас закладаюць яшчэ вельмі мала.

Чацвертая справа — выкарыстоўванне паш. Належым па гэтым да найбольш адсталых раёнаў. Велізарнае значэнне для беластоцкага селяніна мае загонны выпас. Гэта сістэма шырока распаўсюджана ў найбольш высакаразвітых краінах. Загонны выпас дае значна лепшы прырост пры выпасе, а ў выніку большыя надоі малака і таннейшую прадукцыю мяса (няменш, як на 15—20%). Калі селянін мае, напр., 10 кароў, дык павінен мець найменш 4,5 га добрых паш. Пашу дзелім на 10 загонаў (па 0,45 га). У кожным загоне жывёла пасецца, напр., 3 дні. Пасля выпасу, калі трэба рассяваем угнаенне.

Інж. М. СУХАЖЭБРСКІ

## Вывучаюць дарожныя знакі

Нядаўна ў нашай вёсцы арганізаваўся спецыяльны 24-гадзінны курс для мужчын. На курсе вывучаюць дарожныя знакі і правілы руху пры яздзе канём. Вучыцца на курсе 30 гаспадароў. Заняткі вядзе кіраўнік нашай школы Аляксандр Харкевіч.

Толік Харкевіч
Ляшукі

БЕЛАРУСІЯНА

# Пытанне беларускай мовы ў польскай навуцы

«Навуковыя сшыткі Лодзінскага універсітэта» — так называецца выданне, якое змяшчае працы і публікацыі сваіх даследчыкаў і вучоных. Свежы, сёлеташні 36 нумар гэтага выдання прыносіць нам каштоўную працу др Мсціслава Аляхновіча, абмяркоўваючага польскія зацікаўленні беларускай мовай ад паловы XVI ст. да 1863 года.

Аўтар адзначае, што гэтыя зацікаўленні пачаліся ў асноўным пасля Люблінскай уніі, калі Падляшша і украінскія землі апынуліся ў межах Кароны. Прыгадваюцца тут прозвішчы вядомых даўніх польскіх вучоных, якія ўдзялялі ў свой час увагу беларускай мове. М. Аляхновіч піша аб парою блытаных ці проста памылковых поглядах на яе ў радзе даўніх прац. XIX ст. прыносіць узмацненне зацікаўлення беларускай моўнай стыхіяй у польскай навуцы. Працы Багуміла Ліндэ, Уладзіслава Сыракомлі, Адама Кіркора I, што самае важнае, Яна Чачота ўнеслі тут шмат новага і каштоўнага. М. Аляхновіч дае станоўчую ацэнку параўнаўча абшырнай працы Я. Чачота, які лічыў беларускую мову самастойнай. Заслугі Чачота і Кіркора бачыць лодзінскі даследчык у апрацоўцы імі першых беларускіх слоўнікаў. Нягледзячы на гэтыя дасягненні, — падкрэслівае М. Аляхновіч, зацікаўленні польскіх вучоных беларускай мовай мелі фрагментарычны характар; паасобныя з іх лічылі яе адной з гаворак «рускай» мовы. Толькі ў XIX ст., піша ў заканчэнні др Мсціслаў Аляхновіч, — пасля выступлення Ліндэ была звернута ўвага на адасобленыя рысы беларускай мовы.

# Беласточчына ў прызме навукі

(Працяг са стар. 1)

**— Змены ў структуры гаспадаркі ваяводства неадлучна звязаны з узроўнем эканомікі Беласточчыны. На якую праблему Вы хацелі б звярнуць увагу чытачоў «Нівы», ацэньваючы змены ў гаспадарцы Беласточчыны за дваццацігоддзе?**

— Рамкі тыднёвіка «Нівы» не дазваляюць абшырна абмеркаваць праблему. Розныя ёсць меркі ўзроўню гаспадаркі краіны ці ваяводства. Звярну ўвагу на адзін паказальнік, які, у маім перакананні, дасканала ілюструе змены ў гаспадарцы. Такім паказальнікам з'яўляецца праца ў прамысловасці. У Беластоцкай прамысловасці працавала ў 1946 г. (без рамеснікаў) 8.089 чал., а ўжо ў 1956 г. — 34.219 чал., каб дасягнуць у 1962 г. — 47.097 чал. Удзел Беласточчыны ў агульнакраёвай працы ў прамысловасці ўзрос з 0,7% ў 1946 г. да 1,45 у 1962 г.

**— Індустрыялізацыя выклікае таксама пэўныя дэмаграфічныя змены. Што Вы скажаце аб гэтым адносна Беласточчыны?**

— Дэмаграфічныя вынікі індустрыялізацыі Беласточчыны — гэта цэлая гама розных з'яў. Хачу звярнуць увагу толькі на праблему гарадабудаўніцтва, гэта значыць, на змены, якія выступілі ў падзеле жыхароў на гарадскіх і вясковых. У 1946 г. жыло ў гарадах 19,2%, а ўжо ў 1962 г. — 31% агульнага ліку жыхароў. У сельскай гаспадарцы працавала ў 1950 г. 72,8%, а ўжо ў 1960 г. — 63,2%. Як бачым, спадак жыхароў, якія ўтрымліваюцца з сельскай гаспадаркі, відавочны. Значыць, маем дачыненне з дабрадзействамі індустрыялізацыі, якую адчулі жыхары.

**— Абмяркоўваючы дасягненні Беласточчыны ў мінулым дваццацігоддзі нельга праміnуць гэтак званага рэгіёну ЭГО.**

— Маеце рацыю. У бягучым дваццацігоддзі адзначаем не толькі поўнае загаспадараванне гэтых зямель, але таксама іх сур'ёзнае развіццё. Працэс грамадскай і гаспадарчай інтэграцыі трох мазурскіх паветаў закончаны ў першым дзесяцігоддзі. З'яўляюцца яны інтэгральнай часткай гаспадаркі Беластоцкага ваяводства. Гэта вялікае дасягненне жыхароў Беласточчыны, у гэтым таксама працоўных рэгіёна ЭГО.

**— Што Вы хацелі б яшчэ перадаць чытачам «Нівы»?**

— Самыя сардэчныя прывітанні і пажаданні далейшых поспехаў у працы на карысць Беласточчыны і ўсёй краіны.

Гутарку правёў
АНДРЭЙ БАРВІЮК






Калі гутарка ідзе пра вопытнага гаспадара, уяўляем сабе чалавека са старым тварам, парэзаным маршчынамі гадоў.

**Трафім Садоўскі** з Храбустоўкі ў Гайнаўскім павеце не змяшчаецца ў рамках такога партрэта. Яму нямногім больш 30 год.

Пачалося ад ільну. Калісьці жонка вымушана была на гэтых загончыках тыдзень, а то і больш прасядзець, сцяблінку за сцяблінкай перабіраючы. А ён, бы на шпацыры, прайшоўся па баразёнках туды і назад — і за паўгадзіны ўсё гатова.

«Вось яна, тэхніка цяпер!» — думае Трафім. Раптам чуе, што ад вуліцы нясецца грозны голас яго жонкі.

— Што ты нарабіў! Увесь лён мне змарнаваў гэтымі сваімі «квасамі»!

Сэрца Трафіма адазвалася трывогай. Няўжо лён не вытрымаў? Авёс жа пасля апырсквання гэтым зеллезнішчальным прэпаратам стаў чысты, як крынічная вада. Прапалі нават пырнік і чортапалох, на якіх дагэтуль ніякага спосабу не было. У кніжках і ў газетах пішуць, што лён таксама можна палоць хімічным метадам. Садоўскі належыць да таго роду людзей, якія з глыбокім даверам успрыймаюць друкаванае слова. Пайшоў у нараўскі ГС. Тут аднак яшчэ тады не чулі пра гэтыя навінкі.

— Хутчэй ад зелля прападзе авёс, — заявіў працаўнік ГС у Нарве. Садоўскі тут жа праз званіў у Гайнаўку ў павятовы інспектарат аховы сельскагаспадарчых культур. Незадоўга ў Храбустоўку завітала машына з павета. Зрабілі ўсё дарма, каб людзі пабачылі, што нават чортапалоху няма асноў баяцца. Трафім трывожна паглядаў на свой авёс. Спачатку крыху апаў, пажаўцеў, але потым О-го! Перагнаў усіх суседзяў! І жонка рук не калечыла пры ўборцы. Гэта яго асмеліла. Спрабаваў з ільном. І маеш табе!

Трывога аказалася дарэмнай. Пасля некалькіх дзён лён аджыў і ўжо палоць яго не было патрэбы. Наступным разам Трафім ужо не задумваўся. Жонка аднак уперлася і не дазволіла спырскаць адзін загон. Няхочачы паявілася на полі наглядная вопытная дзялянка.

У Садоўскіх 5 гектараў ворнай зямлі і каля паўтара гектара лугоў; яны трымаюць 9 кароў, каня, да 50 курэй, свіней. На дваіх работы хоць адбаўляй. Ды яшчэ двое школьнікаў: адно дзіця ходзіць у трэці клас, а другое — ў пяты. Не хапіла тады часу займацца прапалкай неапырсканага загончыка. Праходзілі жанчыны дарогай, глядзелі на загоны ільну Садоўскіх і дзівіліся: якое ліха! Тры аднолькавыя

(Працяг на стар. 5)

ДАРОГА СЛАВЫ

# АНТЫФАШЫСЦКІЯ КАМІТЭТЫ



Рыгор Волчык з Гайнаўкі. Былы дзеяч «Грамады», член антыфашысцкага падполля ў Гайнаўцы, партызан — сувязны. Расстраляны 24 снежня 1942 г. у Белавежы.



Вера Гіжэўская з Гайнаўкі, член антыфашысцкага падполля, партызанская сувязная. Расстраляна 24 снежня 1942 г. у Белавежы.



Янка Гіжэўскі, член антыфашысцкага падполля партызан — сувязны. Расстраляны 24 снежня 1942 г. у Белавежы.

Гітлераўцы, а дакладней акружное беластоцкае гестапа, секцыя IV—А—1, якой кіраваў капітан СС Вальдэмар Махоль, рабіла ўсё, каб задушыць у зародку гэты падпольны антыфашысцкі рух, які ўсё шырэй ахопліваў беларускія і польскія вёскі. Рознымі метадамі, і ў першую чаргу пры дапамозе здраднікаў, агентаў гестапа стараліся здэканспіраваць антыфашысцкія камітэты і ліквідаваць іх. У многіх выпадках ім удавалася гэта. Выкрыццё і арышт членаў антыфашысцкага падполля заўсёды канчалася іх смерцю. Вось некалькі прыкладаў ліквідацыі на Беласточчыне змагароў — членаў антыфашысцкіх камітэтаў.

У сакавіку 1942 года гестапа і жандармерыя на падставе даносаў агента «Козака» арыштавала антыфашыстаў з Коматаўцаў. Канстанцін Баркоўскі — вядомы дзеяч КПЗБ і старшыня антыфашысцкага камітэта, а таксама савецкі лейтэнант Грыгорый былі расстраляны за вёскай Коматаўцы. Арыштаваныя Міхась Дарожка, Сцяпан Севасцянюк і іншыя прапалі без вестак.

8 красавіка 1942 года па даносу агента гестапа былі арыштаваны ў Дзернякове (Беластоцкі павет) Сцяпан Храноўскі — член КПЗБ, дзеяч антыфашысцкага падполля і лейтэнант Сяргей Лёўкін — партызанскі арганізатар. У той самы дзень былі арыштаваны і член КПЗБ з Валіл Канстанцін Дзянісік і васемнаццацігадовы сувязны Пётр Мялешка. 10 красавіка 1942 года арыштаваных расстралялі каля Гарадка.

У Вульцы-Тэрэхоўскай (Гайнаўскі павет) дзейнічала падпольная група пад кіраўніцтвам лейтэнанта Савецкай Арміі Уладзіміра Харытонава. Выданыя агентамі гестапа 22 ліпеня 1942 года антыфашысты з групы Харытонава былі расстраляны ў Вульцы - Тэрэхоўскай. Загінулі тады лейтэнант Уладзімір Харытонаў, Фёдар Зінчук, Васіль і Уладзімір Баран, Мікалай Шакала, Павел Назарук і Сцяпан Раманюк.

Летам і восенню 1942 года гестапа і жандармерыя правялі арышты антыфашыстаў у Гайнаўцы і аколіцы, дзе існавала шырокая сетка антыфашысцкіх камітэтаў. Пасля некалькімесячнага следства 24 снежня 1942 года некалькі соцен антыфашыстаў — беларусаў, палякаў і савецкіх афіцэраў і салдат, якія трапілі ў рукі гестапа, былі расстраляны на так званай броўскай дарозе ў Белавежы. Загінулі тады між іншым Вера і Янка Гіжэўскія, Янка і Сяргей Каўшыла, Рыгор Волчык, былы дзеяч «Грамады» Цімафей Кісель і шмат, шмат іншых.

Вясною 1943 года па даносу здрадніка Язэпа Карпенюка гестапа арыштавала ўвесь антыфашысцкі камітэт у Баброўніках. Тады былі забіты Вера, Язэп, Дзмітр, Андрэй і Мікалай Авечка, Яўгенія Томчук, Лявон Цынеўскі, Аляксей Прышчэпка (старшыня антыфашысцкага камітэта ў Баброўніках), Аляксей Дарожка, Антон Саеўскі і Аляксей Цынеўскі.

У верасні 1943 года гестапаўцы арыштавалі многіх членаў падполля ў Гайнаўцы і аколіцы. Пасля следства, 17 верасня 1943 года, на ўскраіне Белавежскай пушчы каля Гайнаўкі былі расстраляны 104 антыфашысты. Загінулі тады разам з іншымі доктар Казімір Пташынскі з сям'ёй, Вінцэнт Каладзей — вядомы дзеяч антыфашысцкага падполля і шмат іншых.

У тым жа часе быў арыштаваны і павешаны ў Белавежы Янка Верамюк — старшыня антыфашысцкага камітэта ў Дубінах каля Гайнаўкі.

Такіх прыкладаў расстрэлу членаў антыфашысцкага падполля на Беласточчыне — беларусаў, палякаў і рускіх — было вельмі многа. Гітлераўскі тэрор узмацняўся з кожным годам. Тысячы людзей былі вывезены ў канцэнтрацыйныя лагеры і на прымусовыя работы ў глыб Германіі. Гарэлі беларускія вёскі. Тэрыторыя была моцна абсаджана паліцыяй і жандармерыяй. Аднак усё гэта не змагло спыніць барацьбу народа за сваё вызваленне. У вёсках ствараліся новыя падпольныя групы, у лясах арганізаваліся партызанскія атрады, якія складаліся пераважна з беларусаў, пражываючых на Беласточчыне.

А. АМІЛЬЯНОВІЧ



Вінцэнт Каладзей з Гайнаўкі. Былы левы дзеяч ППС, арганізатар забастовак у перадваенны перыяд, член антыфашысцкага падполля і арганізатар дапамогі партызанам. Расстраляны 17 верасня 1943 г. каля Гайнаўкі.



Янка Каўшыла з Гайнаўкі. Член антыфашысцкага падполля, партызан — сувязны. Расстраляны 24 снежня 1942 г. у Белавежы.



Др Казімір Пташынскі, член антыфашысцкага падполля ў Гайнаўцы. Актыўны арганізатар лекарскай дапамогі партызанам у Белавежскай пушчы. Расстраляны 17 верасня 1943 г. разам са ўсёй сям'ёй на ўскраіне Пушчы каля Гайнаўкі.

# Заканчваюць падставовую школу

Мала ўжо ёсць на вёсцы людзей малодшага пакалення, якія не маюць закончаных 7 класаў падставовай школы. З кожным годам памяншаецца лік вечаровых школ для дарослых.

У Пясчаніках існуе такая школа і вучыцца там 22 чалавекі. Большасць з іх не з'яўляецца жыхарамі Пясчанікаў. З Гарадка, за 8 км, прыязджае сюды на занягкі 8 чалавек. Ёсць вучні і з Падзалук, і з Валіл, ёсць і з Валіл-станцыі і, вядома, з Пясчанікаў.

Зараз кожнаму маладому чалавеку залежыць на тым, каб мець закончаных 7 класаў, таму што без такога пасведчання цяжка знайсці працу. Вось і гэта між іншым мабілізуе ўсіх да заканчэння падставовай школы. (мх)

АЛЯКСАНДР ЖУРАЎЛЁЎ




У кастрычніку 1940 года я разам з сям'ёй прыехаў у Бельск, Беластоцкай вобласці. Назначылі мяне ваенным камісарам эскадрыллі знішчальнікаў. Невялікі гарадок прывітаў нас дружалюбнымі жыхарамі, чыстымі вуліцамі, рынкам, цяністымі садамі, якія зіхацелі золатам восені. Гарадок мне спадабаўся.

Два кіламетры за горадам ля бярозавага гаю знаходзіўся наш аэрадром: вялікая, роўная, пакрытая травой пляцоўка. Навокал аэрадрома стаялі жвавыя знішчальнікі «И—16» і грозна гудзячыя «МИГ—1».

Афіцэры жылі ў горадзе, а радавыя і сяржанты — ў казармах, якія знаходзіліся на ўскраіне бярозавага гаю. Тут жа ў густым лесе знайшлі сховішча склады гаручага і боепрыпасаў, па-майстэрску замаскаваныя, схаваныя ад непажаданых вачэй.

Лётчыкі, як звычайна, узнімаліся ў паветра, трэніравалі стральбу па наземных і паветраных цэлях, праводзілі паветраныя баі, рыхтаваліся на ўсялякія нечаканасці. Вораг жа, германскі фашызм, які акупіраваў Польшчу, знаходзіўся усяго ў 40 кіламетрах ад Бельска.

У маі 1941 года наш авіяполк перабазіраваўся на палявы аэрадром пад Далубовам. Мясцовасць гэтая знаходзілася ў адлегласці 18 км. ад дзяржаўнай мяжы.

22 чэрвеня 1941 года на заходняй граніцы нашай Айчыны ўзнялася бура — фашысцкая Германія вераломна напала на краіну Саветаў.

Вось кароткія вытрымкі з майго дзённіка, які я вёў у час Вялікай Айчыннай вайны.

**«22 чэрвеня 1941 года, 4-ая гадзіна раніцы...** Ясная, цёплая раніца. Я толькі што прачнуўся. За верандай шчабяталі птушкі, парушаючы спакой адпачываючага яшчэ горада.

Учора я прыехаў з Сочы. Быў змучаны далёкай дарогай і таму хацелася яшчэ крыху папесціцца сном, павыцягвацца ў пасцелі, адпачыць.

Раптам я пачуў тры страшэнныя, раскацістыя, быццам грамавыя ўдары. Вокны веранды адгукнуліся чуткім енкам. Што гэта можа быць? Чую, як на вуліцы расце гоман і крыкі людзей. Хутка, па-ваеннаму апранаюся і выскакваю з кватэры. Па вуліцы бягуць людзі: у ваеннай і ў цывільнай форме.

Маёр-танкіст сказаў мне:

— Вайна... Немцы напалі...

У вачах маёй маці, жонкі і сына бачу слёзы і маўклівы перапалох:

— Што з намі будзе, што нам рабіць?

— Рыхтуйцеся да эвакуацыі... — гавару я, апранаючы поўнае баявое летняе абмундзіраванне. Яшчэ мінута і я ўжо бягу па вузкіх вулічках да аэрадрома. У горадзе рвуцца снарады — гэта б'юць дальнабойныя «Берты», а быць можа, лютуе «пятая калона», узрываючы важныя стратэгічныя пункты сувязі, пошту, тэлеграф, склады прадуктаў?...

Калі я наблізіўся да ўскраіны горада, у паветры паявілася некалькі дзесяткаў нямецкіх самалётаў «Месершміт — 109». Яны выразна выдзяляліся на фоне блакітнага неба, бліскаючы жоўтымі крыжамі на крылах.

— Так! — пераканаўся я, — гэта пачатак вайны...

Самалёты на хаду скінулі ў раёне станцыі запаляючыя бомбы, і праз некалькі мінут я ўбачыў клубы дыму і аранжавыя языкі полымя, узняўшыеся над будынкамі.

Цяжка дыхаючы, я пабег к аэрадрому. Мне засталося дабегчы сто метраў да штаба палка, калі пачуў я надрыўны гул ляцеўшых самалётаў. Гэта былі «Юнкерсы — 88». Яны шчыльным строем «клін», у групах па тры самалёты, накіроўвалі вастрыё свайго «кліна» на ўскраіну гаю, дзе знаходзіліся цыстэрны з бензінам і склады са снарадамі, патронамі і бомбамі. У мяне на плячах паявіўся вільготны халадок:

«Усё!.. Бывай маладосць!»

Свіст бомб прыжаў мяне да зямлі. Усім целам я адчуваў, як дрыжала зямля ад страшэнных узрываў. Навокал мяне з візгам праносіліся асколкі, абразаючы сукі на дрэвах, падрываючы ўверх вільготнае лісце. Здавалася мне, што я знаходжуся ў сапраўдным пекле. З секунды на секунду я чакаў магутнага, страшэннага ўзрыву, які ўскалыхне ўвесь Бельск, калі хоць адна бомба пападзе ў склад зброі...

Але гул самалётаў і ўзрывы бомб незадоўга сціхлі, я прыпадняўся і заўважыў на небе чор-

# ТРЫБУНА чытачоў

МЕДЫЦЫНСКІЯ СЯРЭДНІЯ ШКОЛЫ НА БЕЛАСТОЧЧЫНЕ

## Запісы ўжо прымаюцца

У Беластоцкім ваяводстве ёсць наступныя сярэднія медыцынскія школы: для маючых атэстат сталасці (матуру), 18—30 год.

Państwowa Szkoła Medyczna Pielęgniarstwa Беласток, Варшаўская 29, з інтэрнатам, стыпендыя 420 зл., навука 2 гады, без уступнага экзамену.

Państwowa Szkoła Medyczna Położnych Беласток, Чацкага 8, з інтэрнатам, стыпендыя 360 зл., навука 2,5 гады, без уступнага экзамену.

Państwowa Szkoła Medyczna Techników з аддзеламі аналітыкі і фармацэўтыкі, Беласток, Міцкевіча 2б з інтэрнатам для дзяўчат, стыпендыя 273 зл., навука 2 гады, экзамен вусны і пісьмовы па хіміі.

Пасля 9-ці класаў, 16—20 год

Liceum Pielęgniarstwa ў Ломжы, вул. 22 Ліпеня 20, стыпендыя 420 зл., з інтэрнатам, навука 4 гады.

Liceum Pielęgniarstwa ў Беластоку, Варшаўская 29, з інтэрнатам, стыпендыя 420 зл., навука 4 гады.

Выпускнікі абедзвюх гэтых школ атрымліваюць атэстат сталасці і дыплом медсястры. Экзамены па праграме апошніх пройдзеных класаў.

Пасля 7-мі класаў, 14—16 год.

Liceum Medyczne Pielęgniarstwa ў Бельску, вул. Навоткі 6, інтэрнат для невялікай колькасці вучняў, стыпендыя 420 зл. для жывучых у інтэрнаце, для іншых 273 зл. Навука 5 год.

Liceum Medyczne Pielęgniarstwa ў Беластоку, вул. Варшаўская 29, без інтэрната, стыпендыя 273 зл., навука 5 год.

Liceum Medyczne Pielęgniarstwa ў Ломжы, вул. 22 Ліпеня 20, без інтэрната, стыпендыя 273 зл., навука 5 год.

Выпускнікі гэтых трох школ атрымліваюць атэстат сталасці і дыплом медсястры. Экзамены па праграме пачатковай школы.

Zasadnicza Szkoła Medyczna Psychiatrycznych Asystentek dla Pracujących ў Харошчы. Навука 3 гады. Школа вячаровая, для працуючых у шпіталі.

Zasadnicza Szkoła Medyczna PCK у Элку, Славацкага 24, з інтэрнатам і стыпендыяй. Навука 2 гады. Школа не дае поўнага дыплома, толькі правэ асістэнткі медсястры ў шпіталях.

Запісы ва ўсе школы ўжо пачаты. Дакладныя інфармацыі можна атрымаць непасрэдна ў школах асабіста або пісьмова.

Дакументы: пасведчанне са школы, лекарскае, аб маянтковым стане бацькоў, біяграфія, паданне, дзве фатаграфіі. (вл)

## Клопаты аб дзецях

Таварыства сяброў дзяцей на Бельшчыне мае не малыя дасягненні. Дзейнічаюць 44 гурткі. У Бельску працуе 27, а на вёсках — 17. Асноўнай дзейнасцю гурткоў ТПД з'яўляецца арганізацыя дзіцячых пляцовак. У Бельску ёсць 5 такіх пляцовак. Апеку над гэтымі пляцоўкамі маюць праўленні гурткоў і дзіцячыя самаўпраўленні. Дзякуючы іх апецы ўпарадкаваны дзіцячыя пляцоўкі, памалёваны платы, пастаўлены лаўкі, качэлі і з'язджальні. Моладзь ТПД сама зрабіла 16 лавак і баскетбольную пляцоўку. Асабліва актыўна працуюць старшыні і сакратары гурткоў ТПД Марыя Парфенюк, Марыя Давідзюк, Браніслава Ажэльска, старшыня суда тав. Кубак і старшыня Саюза настаўнікаў тав. Лазінскі. Вартасць усіх работ, выкананых грамадскім чынам па іх ініцыятыве, акрэсліваецца сумай 40 тыс. зл.

У лютым гэтага года для дзяцей быў арганізаваны кулік у Галадоўскі лес. Былі наняты два вазы, да якіх дзеці дачапілі 12 санак і пад апекай бацькоў і гуртка ТПД выехалі на экскурсію. Дзеці вязлі для птушак корм і кармушкі, якія потым прычапілі на дрэвах у лесе.

Важнай дзейнасцю ТПД з'яўляецца арганізацыя вясковых дзяцінцаў на перыяд палявых работ. У мінулым годзе было арганізавана 12 такіх дзяцінцаў. Да найлепш працуючых гурткоў належаць: гурток ТПД у Рыбалах, якім кіруе Аляксандра Панасюк, і гурткі ў Керснове, Парцаве і Кальніцы, якія ўзначальваюцца Янінай Хвашчэўскай, Сцяпанам Трафімюком і Юліяй Язерскай.

Цікавыя планы намечаны Павятовым праўленнем ТПД і на 1964 год. У гэтым годзе таксама будзе арганізавана 12 дзяцінцаў і 12 пунктаў для дзяцей прадшкольнага ўзросту пры падставовых школах на вёсках. Павялічыцца колькасць святліц, дзіцячых пляцовак і летніх лагераў.

**Уладзімір Кучынскі**

— Мяне не цікавіць сума, — перабіў яго Глебаў. — Ён плаціў манетамі ці паперкай?

— Паперкай, паперкай... — агрызнуўся Артамонаў.

— Яна ў вас захавалася?

Артамонаў мяўся, зноў рабіў выгляд, што хоча прыпомніць, ці цэлая ў яго гэта пяцёрка.

— Таварыш Артамонаў, гэта вельмі важна, каб паперка аказалася ў вас! Вельмі важна!

Артамонаў не спяшаючы дастаў партманет і выняў з яго пяцёрку. Ён ужо разумеў, што справа не ў рэшце.

— Асцярожна! — крыкнуў Глебаў. — Трымайце за вугал.

Артамонаў кінуў пяцёрку на стол.

— Дзякую, таварыш Артамонаў. Вельмі вам дзякую. Вы не ўяўляеце, колькі каштуе гэта пяцёрка.

— Чаму ж гэта не ўяўляю?

Глебаў скеміў, выняў з кішэні пяць рублёў, аддаў іх Артамонаву.

— Вы пакуль свабодны.

— Што значыць пакуль? — устрывожыўся Артамонаў.

— А тое, што вас не павінна здзівіць, калі мы выклічам вас да сябе ў КДБ. Магчыма, трэба будзе пры вашай дапамозе ўдакладніць асобу гэтага пасажыра. І апошняе: нікому аб здарэнні ні слова.

— Ясна... — заклапочана працягнуў Артамонаў, устаў і, пераступіўшы з нагі на нагу, збянтэжана сказаў: — Ён, дарэчы, рэшты не ўзяў. На лічыльніку было ўсяго сорак сем капеек.

Глебаў рассмяяўся.

— І вы думалі, што вас выклікалі адабраць рэшту?

— Не без гэтага...

— Пачакайце крыху, я афармлю пратакол, вы павінны падпісаць...

(Працяг за тыдзень)

135

## Не толькі традыцыйнае рамясло

Да гэтага часу нядрэнна развіваецца традыцыйнае рамясло, як кравецтва, шавецтва, сталярства і цырульніцтва. Адчуваецца вялікі недахоп электратэхнікаў, тэлетэхнікаў, слёсараў і іншых рамеснікаў. Зараз гэта праблема стаіць у цэнтры ўвагі аддзела прамысловасці прэзідыума ПРН у Гайнаўцы. Аддзел арганізаваў тры падрыхтоўчыя курсы з галіны будаўніцтва, металаапрацоўкі і электратэхнікі, якія закончыла 72 вучні. Патрэбны на вёсцы і іншыя спецыялісты, як кавалі, рамонтнікі сельскагаспадарчых машын, вулканізатары і іншыя. Падобныя курсы спатрэбіліся б і для гэтых спецыяльнасцей.

## Бельшчызна багацее

Добра развіваюцца на Гайнаўшчыне існуючыя 6 сгулдзельняў прадукцыйных. А вось некалькі фактаў з Бельшчызны. За мінулы 1963 год, у гэтай спулдзельні прадукцыйнай на адну днёўку вышла больш як 47 зл. Не ўлічваецца сюды даход з прысядзібнага ўчастка і прыватнай жывёлагадоўлі.

**Ю. Козак**
Гайнаўка

## У гонар ХХ-годдзя

У час абмяркоўкі гаспадарчых планаў развіцця паасобных вёсак сяляне грамады Храбалы абавязаліся грамадскай працай ушанаваць ХХ-годдзе народнай Польшчы. На сваіх сходах яны прымалі пастановы грамадскім чынам направіць дарогі, якія спалучаюць паасобныя вёскі: будзе зроблена 200 метраў жвіроўкі ад Малых Грынявіч да Гацькоў, 300 метраў дарогі з Храбалоў у Плюцічы, 200 метраў ад шашы да Плюціч, а таксама па некалькі сот метраў дарогі Гацькі — Райск, Рыпнева — Малыя Грынявічы, Райск — Храбалы і Плёскі — Кнаразы. Жыхары Дзянісак уложаць 200 метраў бруку, а сяляне Райска пабудуюць водныя пропусты на дарозе Райск — Сталовач.

Вартасць дарожных работ грамадскім чынам замыкаецца сумай 320 тысяч злотых.

Прадбачваецца таксама будова грамадскім чынам 24 водныя пропусты на меліярацыйных равах. І ў гэтай галіне вартасць грамадскай працы ў кожнай вёсцы складзе суму па 85 тыс. зл.

Жыхары Малых Грынявіч згодна з абавязацельствам пабудуюць у сваёй вёсцы злеўню малака. Ацэньваецца гэта праца на 40 тыс. зл.

Асаблівага значэння ў працэсе рэалізацыі гаспадарчых задач у грамадзе Храбалы набірае датэрміновае выкананне ўзносаў на грамадскі фонд будовы школ. На нарадзе солтысаў была прынята пастанова, каб да 30 чэрвеня план збору на ГФБШ быў выкананы ў 100 працэнтах.

**Аляксандр Трафімюк**
сакратар Прэзідыума ГРН у Храбалах.




Дарагое **Сэрцайка!**

Жыву ў вёсцы Р. Гайнаўскага павета. Дзяўчат у нас многа, але і тыя не чытаюць газет, кніжак, толькі іграюць у карты або пляткуюць. Такія якраз дзве дзяўчыны Л. і В., маючыя ўжо больш дваццаці год. Вось што здарылася мне. Былі яны маімі добрымі сяброўкамі. Перад новым годам яны напісалі пісьмо нібы ад мяне да Колі, хлапца, якога я мала ведала. Ён працуе больш 20 км ад нашай вёскі. Яны напісалі, што я яго запрашаю на свята і ён прыехаў да мяне. Ён у нашай вёсцы ніколі не быў. Я Колю не хацела прыняць, бо і што ж я буду з ім гаварыць, калі я яго не знаю. Яны накіравалі да мяне Колю пераначаваць. Але дагэтуль у мяне хлопцы не начавалі і я не хацела, каб Коля ў мяне начаваў. І тады пусцілі б плётку, што ў мяне начуюць хлопцы. Але ім гэта не ўдалося. Дык пачалі пляткаваць, што я сама запрасіла Колю, а пасля не прыняла яго. А я не люблю зводзіць хлопцаў, і ў гэтым жа ж я не вінавата. Коля цяпер на мяне гневаецца і сказаў, што будзе за гэта мсціцца. Як вытлумачыць Колю, што я ў гэтым не вінавата, нічога не ведала аб запрашэнні. Вельмі прашу цябе, Сэрцайка, каб ты надрукавала гэты ліст, каб прачыталі яны аб гэтым і больш не рабілі.

**Марыся**
з Гайнаўскага павета

Дарагая **Марыся!**

Спачуваю табе, але думаю, што маеш выйсце з гэтага непрыемнага становішча. Ты дрэнна аднак паступіла, што, калі прыехаў Коля на святы да цябе, ты яго не пусціла ў хату. Ён жа таксама ў тым не вінаваты. Ты павінна была тады адразу яму вытлумачыць, што ты нічога не ведаеш, пайсці з ім разам да тых дзяўчат і высніць справу на месцы. Але не трэба было выганяць хлопца з хаты, бо ён жа не меў куды пайсці, нікога не ведаючы. Праўда, ён не павінен ехаць да дзяўчыны, якой не ведае. Гэта будзе і для яго навучка. Не мае ён таксама рацыі ў тым, каб мсціцца. Гэта вельмі непрыстойна для мужчыны.

Як цяпер табе выйсці з гэтага становішча? Ты павінна пры найбліжэйшым спатканні з Колем, калі ён прыедзе ў тваю вёску, вытлумачыць яму так, як я табе пішу на пачатку. Тады вельмі сорамна будзе тваім сяброўкам і за іх бескультурныя паступкі, і напэўна яны ўжо больш так не зробяць. Сапраўды, дзяўчатам брыдка рабіць такія штучкі.

Калі гэтак паступіш, як я табе раю, напэўна Коля перастане гневацца на цябе, а аб тваіх сяброўках будзе мець дрэннае ўражанне. Гэта ім будзе найлепшая навучка.

**СЭРЦАЙКА**

«Ужо прайшоў год, як я скончыла пачатковую школу. Хаця ў нас дома матэрыяльныя ўмовы не вельмі добрыя, аднак вельмі хацела б пайсці куды-небудзь вучыцца. Парай, куды пайсці, у якую школу», — піша Марыся з Беластоцкага павета.

Не пішаш, якая спецыяльнасць цябе цікавіць, таму цяжка табе раіць.

Калі маеш цяжкія матэрыяльныя ўмовы, можаш паступіць у карэспандэнцыйны агульнаадукацыйны ліцэй у Беластоку, вул. Цёплая 32. Тады будзеш самастойна вучыцца дома, а толькі час ад часу кансультавацца. Гэта найпрасцейшы, думаю, для цябе выхад.

Ёсць таксама сярэднія школы медсясцёр пасля 7-мі класаў у Беластоку, Бельску-Падляшскім, Элку і Ломжы. Шырэйшую інфармацыю аб гэтых школах знойдзеш у сённяшняй «Ніве». С.




Праграма на 21 — 26.IV. 1964 г.

### ГАЙНАЎСКІ ПАВЕТ

**Белавежа**
„Koledzy" (radz.), 21—23. „Czarny monokl" (franc.), 24—26.

**Кляшчэлі**
„Powiernik pań" (franc.), 21—23. „Trzynastego nocą" (bułg.), 24—26.

**Дубіны**
„Jak być kochaną" (polski), 25—26.

**Нараў**
„Sprawa Niny B" (franc.), 22—26.

**Нараўка**
„Przygody Krosza" (radz.), 25—26.

**Чаромуха**
„Płonąca wyspa" (radz), 21—23. „Czarny monokl" (franc.), 24—26.

**Чыжы**
„Diabeł morski" (radz.), 22—26.

### БЕЛЬСКІ ПАВЕТ

**Боцькі**
„Siedem nianiek" (radz.), 22—26.

**Бранск**
„Drugi tor" (NRD), 21—23. „Szesnasta wiosna" (radz.), 24—26.

**Гродзіск**
„Torreador" (meksykański), 25—26.

**Орля**
„Strachy zamku Spessert" (NRF), 22—26.

**Райск**
„Król Maciuś I" (polski), 22—26.

### БЕЛАСТОЦКІ ПАВЕТ

**Гарадок**
„Zwycięstwo nad Wołgą" (radz.), 21—23. „Gdzie jest generał" (polski), 24—26.

**Міхалова**
„Wyprawa w Tatry Słowackie" (czeski), 21—23. „Nieletni świadek" (ang.), 24—26.

**Супрасль**
„Nie bójcie się tabliczki mnożenia" (NRD), 21—23. „Śmierć nazywa się Engelchen" (czeski), 24—26.

**Чорна Беластоцкая**
„SOS na Pacyfiku" (ang.), 21—22. „Sławne miłości" (franc.), 23—24. „Weekendy" (polski), 25—26.

### СЯМЯТЫЦКІ ПАВЕТ

**Мельнік**
„Rudy" (radz.), 21—23. „Gdzie jest generał" (polski), 24—26.

**Мілейчыцы**
„Powiernik pań" (franc.), 21—23. „Milczenie" (polski), 24—26.

**Нурэц**
„Mecz w piekle" (węgierski), 21—23. „Komiczny świat Harolda Lloyda") 24—26.

### САКОЛЬСКІ ПАВЕТ

**Крынкі**
„Tylko we dwoje" (ang.), 21—23. „Yokmok" (polski), 24—26.

**Сухаволя**
„Ziemia aniołów" (węgierski), 21—23. „Kanciarze i Spółka Akcyjna" (ang.), 24—26.

**Шудзялава**
„Wąż morski z Loch Ness" (ang.), 22—26.

**Сідра**
„Stworzenie świata" (czeski), 21—22. „Zabawa na sto dwa" (ang.), 23—24. „Haszek i jego Szwejk" (radz.), 25—26.

### ДУБРОЎСКІ ПАВЕТ

**Ліпск**
„Ich dzień powszedni" (polski), 25—26.

**Новы Двор**
„Po latach" (radz.), 25—26.

**Ружаны Сток**
„Flip i Flap na bezludnej wyspie" (franc), 21—23. „Czas rozłąki" (radz.), 24—26.

У мясцовасці Янаў у днях 21—26.IV. фільмы высвятляцца не будуць.

## ТЭАТРЫ

### ТЭАТР ІМ. ВЯНГЕРКІ
(выязная група)

**Дарожкі** (Беластоцкі павет)
„Pokusa" — 21.IV.

**Саколка**
„Pokusa" — 23.IV.

**Чаромуха**
„Pokusa" — 24.IV.

**Чорна Беластоцкая**
„Pokusa" — 25.IV.

**Бельск Падляшскі**
„Pokusa" — 26.IV.

### ТЭАТР «СВЕРШЧ»

**Дуброва**
„Zimowa przygoda" — 21.IV.

